Дзяржаўнае пытанне

# Інтэграцыя патрабуе уніфікацыі

***Дэпутат Валерый Мікалаевіч Захарчанка ўваходзіць у склад дзвюх парламенцкіх камісій па адукацыі. А дакладней, ён працуе ў пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, а нядаўна абраны членам Камісіі па сацыяльнай палітыцы, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Але пры такой рабочай занятасці Валерый Мікалаевіч згадзіўся даць інтэрв'ю, як ён сказаў, "сваёй" газеце і прыняў нашага карэспандэнта ў сваім кабінеце ў Доме Урада.***

**- Валерый Мікалаевіч, больш дзесяці гадоў суверэннасці Беларусі і Расіі прывялі да раз'яднання і агульнай сістэмы адукацыі. Як выглядае сёння на фоне расійскай адукацыі, па вашым меркаванні, адукацыя Беларусі?**

– Сапраўды, дарогі нашы хоць і разышліся, але ўвесь гэты час ідуць паралельна адна другой і нечым своеасаблівым не вельмі розняцца. Але ў плане арганізацыйным усе ўзаемныя здабыткі трэба прыводзіць да адной роўніцы. Калі ўзяць агульнаадукацыйную школу, дык у нас рэформа, як кажуць, у самым разгары, а ў Расіі толькі–толькі пачынаецца. Пераход на 12–гадовае навучанне толькі арганізуецца ў расійскіх школах, і пакуль у поўнай меры вучэбныя планы і праграмы не распрацаваны. Таму ў вучэбна–выхаваўчым працэсе існуе шэраг праблем.

Наша школа, што адметна, жыве ўжо ў рэфармаваным асяроддзі. Новыя пераўтварэнні адбываюцца з кожным навучальным годам. Як, вядома, выключэннем не стане і наступны год. Навучальныя ўстановы ўжо актыўна рыхтуюцца да пераходу на 5–дзённы вучэбны і 6–дзённы рабочы тыдзень, а таксама на 10–бальную сістэму ацэнкі ведаў. Плануецца і шэраг іншых нават ўвядзенняў. Адзначу, што школьная рэформа праходзіць у нашай краіне даволі імкліва і мэтанакіравана. Ёсць у ёй трывалы, можна сказаць, стрыжань, які і падтрымлівае рэфарматарскія інавацыі ў тонусе. Я думаю, што гэта звязана і з кампактнасцю самой нашай дзяржавы, і, канешне, з імкненнем да абагульнення ўжо назапашанага вопыту, захавання глыбокіх традыцый беларускай педагогікі. Расійская адукацыя больш схільная да вынаходніцтва, якое, на жаль, не заўсёды апраўдана. Сёння аб гэтых праблемах расійскай школы можна пачуць і ў выступленнях Міністра адукацыі Расіі Уладзіміра Філіпава. Дарэчы, міністр не можа ў поўнай меры паўплываць на кадравую палітыку навучальнай установы, як гэта адбываецца ў нас. У Расіі ВНУ маюць больш самастойнасці, у тым ліку і ў кіраванні. У Беларусі гэтае пытанне вырашаецца больш кансерватыўна. Акрамя гэтага, ёсць значныя адрозненні паміж нашымі сістэмамі і ў праблемах набору, выпуску студэнтаў. Размеркавання выпускнікоў, у тым паняцці, як яно існуе ў нас, у Расіі няма. Расійскія вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы розняцца ад нашых яшчэ і маштабнасцю платнага навучання. Расійская адукацыя выйшла далёка за рамкі сфарміравання толькі платных вучэбных груп. Нядаўна я быў у Калузе. Гэта вядомы расійскі старажытны горад, абласны цэнтр. І што самае прыкметнае, усе яго 17 вышэйшых навучальных устаноў з'яўляюцца недзяржаўнымі. Такая ўсеаб'ёмнасць прыватнага сектара адукацыі не заўсёды выйгрышная. Узнікаюць праблемы з якасцю адукацыі, з арганізацыяй вучэбна–выхаваўчага працэсу, і увогуле ёсць непаразуменні ў такіх структурах з органамі дзяржаўнага кіравання.

**- У нядаўна прынятым Законе аб адукацыі ёсць, як вядома, і ваша праца, Валерый Мікалаевіч. Ці выкарыстоўвалі вы вопыт расійскіх калег?**

– Сапраўды, праект Закона аб адукацыі распрацоўваўся Пастаяннай Камісіяй па адукацыі, культуры, навуцы і навукова–тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу рэспублікі з улікам ужо прынятых аналагічных законаў Расіі і Украіны. Быў выкарыстаны нават мадэльны закон аб адукацыі, які разглядаўся на міжпарламенцкай асамблеі краін СНД. Чаму мадэльны? Таму, што гэта не заканадаўчы дакумент, а, так бы мовіць, яго аснова, дзе выкладзены агульныя прынцыпы Закона аб адукацыі. Цяпер, калі мы прыступілі да распрацоўкі больш вузкіх заканадаўчых актаў, накшталт Законаў аб прафесійна–тэхнічнай і вышэйшай адукацыі, дык пры гэтым будуць ужо выпрацаваны агульныя падыходы развіцця адукацыі для абедзвюх краін.

Відавочна, што адукацыя Беларусі знаходзіцца сёння на пераходным этапе. Ад звыклага, сталага стану, які фарміраваўся дзесяткамі гадоў, яна пераходзіць на зусім новы віток свайго развіцця. Яна будзе заснавана на інфармацыйных тэхналогіях, якія неабходна ўкараняць у адукацыйны працэс. Нельга ў гэтым абмяжоўвацца толькі камп'ютэрнымі класамі. Інфармацыйнае забеспячэнне павінна атрымаць кожнае рабочае месца як настаўніка, так і вучня. Дарэчы будзе сказаць, што ў гэтым напрамку расіяне пераўзышлі нас. Навуковае, інфармацыйнае, метадычнае забеспячэнне адукацыі ў іх намнога вышэй. Да гэтага трэба імкнуцца і нам. Хаця магчымасці нашай дзяржавы, на жаль, не суразмерныя з патрэбнасцямі адукацыі. Але, як запісана ў 15 раздзеле Закона аб адукацыі, аб'ём бюджэтнага фінансавання на ўтрыманне і развіццё нацыянальнай сістэмы адукацыі зацвярджаецца Законам Рэспублікі Беларусь аб бюджэце на чарговы фінансавы год і ўстанаўліваецца ў памеры не менш 10 працэнтаў ад валавага ўнутранага прадукту.

Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што наша рэспубліка выдаткоўвае на адукацыю не менш іншых краін, у тым ліку і Расіі. Канешне, на 10 працэнтаў не пашыкуеш, як кажуць, але для нармальнага развіцця цалкам дастаткова. Галоўнае, каб эканоміка нашай краіны стабільна развівалася. У такой жа прапорцыі будзе ўтрымлівацца і развівацца адукацыя.

**- Як вы ацэньваеце ролю камісіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі ў працэсе уніфікацыі адукацыі абедзвюх краін? Ці ёсць сумесныя праграмы, якія ўжо рэалізаваны?**

– У аснове дзейнасці нашай камісіі стаіць задача выпрацоўкі адзіных падыходаў у вядзенні сацыяльнай палітыкі Саюза дзвюх краін. У гэты блок сацыяльных пытанняў уваходзяць медыцына, сацыяльнае забеспячэнне, адукацыя, навука. Адзінства поглядаў у развіцці гэтых галін ужо выпрацавана, але яшчэ пакуль не комплексна, а адзінкавымі напрамкамі.

Хачу адзначыць, што ў фарміраванні агульнасаюзнай адукацыйнай прасторы значнае месца адводзіцца, акрамя нашай камісіі, і навукова–кансультатыўнаму Савету Парламенцкага сходу па пытаннях саюзнага грамадскага будаўніцтва і сацыяльнай палітыкі. У яго ўваходзяць вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы, вучоныя Расіі і Беларусі. Так, сумеснымі намаганнямі ўжо запушчаны дзве адукацыйныя праграмы, якія фінансуюцца з саюзнага бюджэту. Дарэчы, ён не вельмі значны і складае каля 3,5 млрд. расійскіх рублёў.

Першы праект звязаны з адкрыццём у Мінску філіяла Маскоўскага сацыяльнага універсітэта. Гэтая навучальная ўстанова была створана па рашэнню Савета Міністраў Саюза Беларусі і Расіі. Там вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў для Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Да гэтага ў нас падобнага профілю падрыхтоўкі кадраў не было ні ў адной ВНУ. БДУ, праўда, у апошні час імкнецца запоўніць гэтую нішу, але яго спецыялісты маюць больш шырокі спектр падрыхтоўкі.

Яшчэ дадам, што філіял універсітэта месціцца ў будынку, які выдзеліў Мінгарвыканкам. Утрымліваецца ўстанова як за сродкі саюзнага бюджэту, так і за кошт пазабюджэтнай дзейнасці: тут ёсць платныя групы. На сённяшні дзень у гэтым універсітэце навучаецца больш 600 беларусаў, і сёлета адбудзецца першы выпуск.

Другая праграма стала рэалізоўвацца два гады назад. Яе ініцыятарам выступіла вядомы педагог, прафесар Санкт–Пецярбургскага універсітэта інтэграцыі Валянціна Мікалаеўна Іванова. Па яе прапанове дзве групы студэнтаў беларускіх ВНУ навучаюцца сёлета ў Санкт–Пецярбурзе. Стыпендыі ім выдзяляюцца з саюзнага бюджэту.

Знайшлі шырокае распаўсюджанне і двухбаковыя дамоўленасці паміж канкрэтнымі адукацыйнымі структурамі і навучальнымі ўстановамі. Ужо добра вядома супрацоўніцтва камітэтаў адукацыі Мінска і Масквы, упраўленняў адукацыі Гомельскага і Магілёўскага аблвыканкамаў, а таксама іншых рэгіёнаў нашай краіны. Трэба адзначыць, што рэалізацыя праграм па уніфікацыі адукацыі праходзіць пры садзейнічанні міністэрстваў адукацыі абедзвюх краін. Іх сумеснымі дзеяннямі будуць арганізоўвацца канферэнцыі, семінары, нарады, дзе будзе аналізавацца ўжо набыты вопыт, а таксама вызначацца далейшыя накірункі. Відаць, аб гэтым, у тым ліку, і будуць весці размову дэпутаты Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі ў час чарговай сесіі ў Санкт–Пецярбургу.

**- Валерый Мікалаевіч, "Настаўніцкая газета" дзякуе вам за гутарку і жадае плёну ў вашай працы. Да новых сустрэч.**

**Гутарыла Ала КЛЮЙКО.**

# Пераходзім на пяцідзёнку

***На пяцідзённы вучэбны тыдзень з 33 навучальных устаноў Бабруйска поўнасцю пяройдуць толькі 13.***

Шасцідзённая сістэма захоўваецца ў дзвюх гарадскіх гімназіях, вучэбным комплексе "Школа - каледж мастацтваў",а таксама ў сярэдніх школах №№ 6,9,14,19 з паглыбленым вывучэннем прадметаў. Усе астатнія навучальныя ўстановы будуць працаваць па змешанай сістэме.

У горадзе ёсць пэўны вопыт і напрацоўкі па арганізацыі пазакласнай выхаваўчай работы ў шосты дзень тыдня. У сярэдняй школе №14 праводзіўся эксперымент па арганізацыі пазакласнай выхаваўчай работы праз пазнавальныя творчыя аб'яднанні і навукова-пазнавальныя творчыя аб'яднанні вучняў.

Работа ў гэтых аб'яднаннях была арганізавана ў шосты дзень вучэбнага тыдня. Іх стварэнню папярэднічала вялікая і сур'ёзная работа па выяўленню інтарэсаў і схільнасцей вучняў, а таксама па вызначэнню кадравых магчымасцей школы і размешчаных у яе мікрараёне ўстаноў пазашкольнага выхавання і адукацыі, устаноў культуры і спорту.

У праграму дзейнасці творчых аб'яднанняў былі ўключаны такія напрамкі, як пазнавальны, навукова-даследчы, творчы, фізкультурна-аздараўленчы. Змест гэтай работы меў двухступеньчаты характар: базавы і павышаны. На базавым узроўні ставілася мэта выявіць патрэбы, схільнасці дзяцей, даць ім магчымасць вызначыцца ў сваіх інтарэсах, на павышаным узроўні - развівацца і ўдасканальвацца ў выбраным відзе дзейнасці.

Гэты вопыт будзе выкарыстаны і ў іншых навучальных установах горада.

**Людміла САВОЦІНА, начальнік упраўлення адукацыі Бабруйскага гарвыканкама.**

Супрацоўніцтва

# У Маскву за вопытам

***У рамках Праграмы доўгатэрміновага супрацоўніцтва паміж Усходняй адміністрацыйнай акругай Масквы і Магілёўскім аблвыканкамам адбылася паездка ў сталіцу Расіі дэлегацыі работнікаў адукацыі Магілёўскай вобласці. Яе ўзначальваў начальнік упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Валерый Багданаў.***

Удзельнікі дэлегацыі знаёміліся са структурай упраўлення адукацыі Усходняй акругі Масквы, вывучалі вопыт работы ўпраўлення. Магіляўчане абмяняліся з гаспадарамі друкаванай прадукцыяй аб дзейнасці педагагічных калектываў навучальных устаноў.

Гасцям была прадастаўлена магчымасць вывучэння работы цэнтра адукацыі "Юніёр", дашкольных устаноў, гімназій, Палаца творчасці моладзі і інш. Дэлегацыя Магілёўскай вобласці прыняла таксама ўдзел у семінары педагагічных работнікаў Масквы. Ён прайшоў на базе Маскоўскай гуманітарна–сацыяльнай акадэміі і асвятляў тэму "Развіццё творчых здольнасцей навучэнцаў пры бесперапыннай адукацыі".

У бліжэйшы час плануецца прыезд дэлегацыі работнікаў адукацыі Усходняй акругі Масквы ў Магілёўскую вобласць.

**Ала КЛЮЙКО.**

За мяжой

# Кожная справа пачынаецца з чалавека

***У 1919 годзе ў Вільні пачала працаваць беларуская гімназія, якая чвэрць стагоддзя ўзгадоўвала кадры свядомых беларусаў, пакуль не была зачынена ў 1944 г. Праз паўстагоддзя тут, у 1994 годзе, пачала сваё існаванне беларуская школа імя Ф.Скарыны - адна на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза.***

Таму і захацелася мне сваімі вачыма ўбачыць, як жывуць і адчуваюць сябе ў Літве мае землякі-беларусы. Я сама ў пачатку дзевяностых, адчуўшы, што майму дзіцяці прыйдзецца ламаць усталяваныя нормы жыцця і надалей прыстасоўвацца ў асяроддзі на правах іншаземца, вярнулася на сваю гістарычную Радзіму. Доўга я чакала выпадку, і нарэшце ён надарыўся.

Не без хвалявання вярталася я ў сваё былое. Вільнюс сустрэў мяне слязлівым днём, шэры змрок ахінуў стары горад, і, здавалася, ён пастарэў аж на цэлае стагоддзе, што і было на самай справе. Пакідала я Вільнюс у дваццатым стагоддзі, а завітала зноў у дваццаць першым.

Доўга шукаць школу не давялося. Па дамоўленасці з завучам еду на сустрэчу. Невялічкі будынак за блакітнай агароджай сустракае мяне званком і гучнымі дзіцячымі галасамі. З густам абстаўлены вестыбюль, фіранкі на вокнах, вазоны робяць яе падобнай да сямейнай школы.

Ды яна такая і ёсць. 173 вучні, 30 настаўнікаў - вось і ўвесь калектыў. Ва ўтульным пакоі збіраюцца мае калегі, і мы пачынаем размову.

- Кожная справа пачынаецца, як вядома, з чалавека. У вас такі таксама быў? - пытаюся я ў намесніка дырэктара школы Рамана Вайніцкага?

- Так. Наш зямляк, пісьменнік Сяргей Шупа, звярнуўся ў пачатку перабудовы ў Міністэрства адукацыі з прапановай адкрыцця беларускай школы для беларусаў, якія пражываюць у наваколлі Вільнюса. І быў пачуты.

Першыя крокі пачыналіся з дзіцячых садкоў. Трэба было знайсці памяшканне, пасля вяліся гутаркі з бацькамі, якія хацелі, каб іх дзеці вучыліся на роднай мове, далей - розныя паперы ад уладаў. Урэшце, усё адбылося.

Мы працуем у адпаведнасці з вучэбнымі планамі і праграмамі для агульнаадукацыйных школ Літоўскай Рэспублікі,- распавядае завуч. -Выкладанне вядзецца на беларускай і літоўскай мовах. З першага класа вучні вывучаюць беларускую, літоўскую і адну замежную мову (англійскую, французскую або латынь). У школе створаны ўсе ўмовы для набыцця дзецьмі добрых ведаў, вучні і настаўнікі ставяцца адзін да аднаго нібы сябры, таму і якіхсьці парушэнняў дысцыпліны амаль не бывае.

Кабінеты маюць належнае абсталяванне і тэхнічныя сродкі навучання: камп'ютэры, відэа- і аўдыётэхніку. Ёсць чытальная зала і бібліятэка. Дарэчы, яна збіралася агульнымі намаганнямі педагогаў, якія звярнуліся ў бібліятэкі роднай Беларусі і ў выніку атрымалі шмат літаратуры з усіх куточкаў нашай краіны. Прыгажосць інтэр'ера, добрае абсталяванне памкнула мяне на пытанне:

- Хто фінансаваў і зараз фінансуе школу?

Аказалася, што ўстанова поўнасцю фінансуецца з гарадскога бюджэту. Напачатку былі атрыманы траншы ад Літоўскага Міністэрства адукацыі і нашага пасольства ў Літве, а таксама спонсарская дапамога.

Далей гутарка ішла ў перакрыжаваных пытаннях. Настаўнікі цікавіліся пра маё жыццё, а я пра іхняе. Хацелася даведацца шмат аб чым: духоўным і культурным асяроддзі, як жывуць бацькі вучняў, якія сувязі з радзімай і замежжам?

Мне расказвалі пра захапленні вучняў, іх інтарэсы і клопаты. У школе дзейнічаюць шматлікія гурткі: вакальны, бальных танцаў, выяўленчага мастацтва, спартыўны і іншыя.

Ёсць курс "Этнакультура Беларусі", які знаёміць з этнічным паходжаннем народа, яго менталітэтам, культурнымі традыцыямі. Базавае навучанне - дзесяцігадовае, а таксама дванаццацігадовае.

Па дамоўленасці паміж Літвой і Беларуссю вучні Віленскай школы маюць магчымасць паступаць у ВНУ Беларусі і наадварот. Часам тыя, хто заканчвае навучанне ў Беларусі, застаецца тут працаваць, некаторыя ж вяртаюцца ў Літву.

Даволі часта яны наведваюцца ў Беларусь на алімпіяды і фестывалі, выязджаюць у шматлікія краіны Еўропы. У гэтым сэнсе жыццё іх насычанае і цікавае. Дзеці былі ў Польшчы, Швецыі, Эстоніі, Фінляндыі. Гэтаму можна і пазайздросціць, бо нішто не пашырае кругагляд так, як вандроўкі. У падарожжы бяруць лепшых, што з'яўляецца добрым стымулам у вучобе.

Віленскую школу не абыходзяць увагай і нашы дзеячы культуры. Сюды завітваюць беларускія паэты і пісьменнікі.

Было б не зусім праўдзіва маляваць жыццё нашых землякоў у Літве аднымі ружовымі фарбамі. А таму я запыталася пра іх праблемы. Адказ быў чаканы. Крызіс у эканоміцы, беспрацоўе бацькоў, часам нездаровы клімат у сем'ях - усё тое, што існуе і ў нас. Напрыклад, у сталоўцы толькі 30 бясплатных абедаў, а ўсе іншыя за іх плацяць 15 долараў, што пры непрацаздольным бацьку або маці складае немалую частку ад сямейнага бюджэту.

Напрыканцы гутаркі ў кабінет завітала выкладчыца музыкі з гітарай. Яна спявала беларускія песні на словы Ніла Гілевіча і іншых знакамітых нашых паэтаў, а мне здавалася, быццам я зусім і не ў Літве, а дзесь у адной з нашых беларускіх школ Лагойскага раёна, прыкладна, у Швабах, і слухаю голас далёкага дзяцінства.

Пакідала я сваіх новых знаёмцаў усхваляваная, як і перад сустрэчай. На развітанне пажадала калектыву педагогаў плённай працы, натхнення і поспехаў у высакароднай справе выхавання свядомых беларусаў у такой блізкай і такой далёкай краіне, якой стала сёння Літва.

А ў вушах яшчэ доўга гучалі словы песні: "Чуб ільняны светла-русы, тата з мамай беларусы..."

**Аліна ЛЕГАСТАЕВА.**

Рэгіянальны ракурс

# Раўназначныя партнёры

***Рашэннем Докшыцкага райвыканкама зацверджана Праграма развіцця сістэмы адукацыі раёна да 2010 года. Яна працуе ўжо другі год і мае на ўвазе дашкольную адукацыю, пачатковую і сярэднюю школы, асноўныя напрамкі выхаваўчай работы, перспектывы развіцця школьнай сеткі, кадравае забеспячэнне, навукова-метадычную падрыхтоўку педагогаў, умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў адукацыі. Раённая Праграма аб'ядноўвае ў сабе некалькі асобных праграм.***

На ўсіх этапах развіцця школы актуальнай была і застаецца праблема якасці адукацыі. Фактар пераемнасці ў навучанні і выхаванні – адзін з важнейшых у эфектыўнасці работы па гэтай праблеме.

Яшчэ ў 1990 годзе ў нас былі арганізаваны 2 комплексы "школа–сад". Цяпер такіх комплексаў – 12. З іх 3 комплексы "сярэдняя школа–сад", 7 – "базавая школа–сад", 1 – "пачатковая школа–сад", 1 – "сярэдняя школа–сад–прытулак". Галоўная іх мэта – рэалізацыя адзінай лініі выхавання дзіцяці ў час дашкольнага і пачатковага школьнага ўзросту, наданне педагагічнаму працэсу цэласнага, паслядоўнага і перспектыўнага характару.

Аналіз работы комплексаў пацвярджае, што сувязь паміж дашкольным і пачатковым звеннямі палепшылася. Настаўнікі і выхавальнікі працуюць над адзінай метадычнай тэмай па ўдасканаленню вучэбна–выхаваўчага працэсу на аснове ідэй развіццёвага навучання, узаемавывучэння праграм і ўзаеманаведвання заняткаў і ўрокаў. Гэта становіцца сістэмай іх работы.

З мэтай лепшай адаптацыі вучняў–шасцігодак да навучальнага працэсу ў раёне максімальная колькасць класаў размешчана на базе дзіцячых садоў. У іх навучаецца 70 працэнтаў вучняў, і толькі 30 працэнтаў – у школах. Практыка работы дзіцячых садоў даказала, што іменна тут створаны лепшыя ўмовы падрыхтоўчых класаў. Ёсць гульневыя, прыродныя і спартыўныя куткі, выкарыстоўваюцца сюжэтна–ролевыя гульні, створана прадметна-развіццёвае асяроддзе.

Кожны дзень праводзіцца ранішняя гімнастыка з музычным суправаджэннем і дынамічны перапынак. Настаўнікі падрыхтоўчых класаў імкнуцца цікава спланоўваць свае ўрокі, праводзяць іх у гульневай форме. Вучаць дзяцей авалодваць патрэбнымі ўменнямі і навыкамі. На занятках выкарыстоўваецца дыферэнцыяцыя і індывідуалізацыя навучання. Настаўнікі разумеюць, што ў цэнтры адукацыйнага працэсу стаіць асоба дзіцяці і імкнуцца стварыць умовы для яе інтэлектуальнага развіцця, набыцця творчага і маральнага патэнцыялу. Развіццё асобы вучня працягваецца і ў пасляўрочны час. Многія школьнікі з пачатковых класаў займаюцца рытмікай, дэкаратыўна–прыкладной дзейнасцю, беларусазнаўствам, засвойваюць асобныя тэмы курса "Здаровы лад жыцця".

Вучэбна–выхаваўчы працэс у 33 агульнаадукацыйных школах, дзе налічваецца 4696 дзяцей, ажыццяўляюць 724 педагогі.

У кожнага настаўніка ёсць свой "сакрэт", свае творчыя знаходкі, якія дапамагаюць дасягнуць патрэбнага эфекту ўрокаў, трывалых ведаў і навыкаў вучняў.

Педагогі 22 агульнаадукацыйных школ уключыліся ў эксперыментальную работу, работу па апрабацыі і ўкараненню адукацыйных тэхналогій. 9 устаноў адукацыі атрымалі статус рэспубліканскіх эксперыментальных пляцовак па двух кірунках: апрабацыя ўдасканаленай сістэмы ацэнкі ведаў вучняў сярэдняй школы (Барсукоўская сярэдняя школа), інфармацыйныя тэхналогіі ў арганізацыі вучэбнага працэсу і кіраўніцкай дзейнасці (сярэднія школы №1, №2 г.Докшыцы, Бягомльская, Крулеўшчынская, Ваўкалацкая, Барсукоўская сярэднія, Гарадзішчанская, Крыпульская базавыя школы).

7 устаноў маюць квоту Міністэрства адукацыі для правядзення апрабацыі педагагічных інавацый па трох напрамках: "Першы крок", "Крок за крокам", развіццёвае навучанне па сістэме Эльконіна–Давыдава. Докшыцкая вочна–завочная школа атрымала статус абласной эксперыментальнай пляцоўкі па распрацоўцы і апрабацыі інавацыйнай мадэлі вячэрняй агульнаадукацыйнай школы з улікам прафесійнай падрыхтоўкі вучняў. Акрамя гэтага, працуе 16 раённых эксперыментальных пляцовак.

Сістэма развіццёвага навучання Эльконіна–Давыдава апрабіруецца ў сярэдняй школе №1 г.Докшыцы і Крулеўшчынскай сярэдняй школе з 1997 года (яна мае працяг у сярэднім звяне навучання), а ў сярэдняй школе №2 г.Докшыцы – з 2000. Яна раскрывае патэнцыяльныя магчымасці вучняў, іх здольнасці да аналізу, планавання, абстрагавання. Развіццёвая сістэма вучыць дзяцей сумесна працаваць у пары, групе, паважаць чужое меркаванне і ўмець адстойваць сваё. Вучні гэтых класаў вызначаюцца асаблівай актыўнасцю, імкненнем самастойна здабываць веды, самаўдасканальвацца.

Чацвёрты год у раёне ідзе апрабацыя і ўкараненне метадалогіі "Крок за крокам" і "Першы крок". Апорнай школай, дзе 6 з 10 пачатковых класаў працуюць па дадзенай тэхналогіі, з'яўляецца сярэдняя школа №2 г.Докшыцы і дзіцячы сад №3 г.Докшыцы. Вынікі аналізу апрабацыі вышэйназваных тэхналогій сведчаць аб тым, што ў дзяцей–дашкольнікаў павысіўся сярэдні індэкс здароўя, а таксама ўзровень камунікабельнасці, развіцця мовы, мысленных аперацый. Для малодшых школьнікаў характэрна больш інтэнсіўнае, чым пры традыцыйным навучанні, развіццё агульных вучэбных уменняў і навыкаў, рэфлексіўных уменняў, павышэнне камунікабельнасці.

Трэці навучальны год педагагічны калектыў Барсукоўскай сярэдняй школы з'яўляецца ўдзельнікам эксперыменту па апрабацыі новай тэхналогіі ацэнкі ведаў, вучэбнай дзейнасці школьнікаў –дзесяцібальнай сістэмы. Па меры правядзення эксперыменту павялічваецца колькасць яго ўдзельнікаў: калі на 1 этапе ў ім удзельнічалі вучні 5–8, 10 класаў, дык на III этапе яго ўдзельнікам з'яўляецца ўвесь педагагічны калектыў, за выключэннем настаўнікаў пачатковых класаў. Апрабацыя ўдасканаленай сістэмы ацэнкі ведаў з 2001–2002 навучальнага года ідзе таксама ў сярэдняй школе №2 г.Докшыцы і Гарадзішчанскай базавай школе.

**З гэтага навучальнага года Докшыцкі раён - пілотны па ўкараненні інфармацыйных тэхналогій у вучэбна-выхаваўчую і ўпраўленчую дзейнасць.**

З гэтага навучальнага года наш раён – пілотны па ўкараненні інфармацыйных тэхналогій у вучэбна-выхаваўчую і ўпраўленчую дзейнасць.У адпаведнасці з раённай праграмай "Інфарматызацыя" закуплены мадэм, мадэрнізавана 15 адзінак тэхнікі. Курсавую перападрыхтоўку прайшлі 27 педагогаў, з іх 2 супрацоўнікі аддзела адукацыі, 4 кіраўнікі школ, 14 настаўнікаў–прадметнікаў.

Цэнтрам інфармацыйных тэхналогій аддзела адукацыі (загадчык Цэнтра Мікалай Васільевіч Філончык) падрыхтавана каля сарака настаўнікаў.

Інфармацыйныя тэхналогіі выкарыстоўваюцца пры выкладанні матэматыкі, хіміі, фізікі, біялогіі, рускай і беларускай мовы ў сярэдняй школе №1 і сярэдняй школе №2 г.Докшыцы, Барсукоўскай і Крулеўшчынскай сярэдніх школах.

Вядзецца ўкараненне інфармацыйных тэхналогій у Бягомльскай, Ваўкалацкай сярэдніх, Гарадзішчанскай і Крыпульскай базавых школах. Настаўнікамі-прадметнікамі праведзена каля 100 урокаў.

Трывала ўваходзяць камп'ютэрныя тэхналогіі арганізацыі навучальнага працэсу ў практыку работы настаўнікаў–моваведаў М.Н.Грайчонак, В.С.Бальшуновай, Г.І.Пакальскай, Т.В.Новікавай, М.В.Казлоўскай, В.У.Парневіч, Л.У.Катэйка (сярэднія школы №1 і №2 г.Докшыцы, Крулеўшчынская сярэдняя і Гарадзішчанская базавая школы).

Акрамя навучальных устаноў, якія маюць афіцыйны статус па правядзенні эксперыментальнай работы, на базе асобных школ ідзе работа па выкарыстанні розных педагагічных тэхналогій ці іх элементаў. Так, у дашкольных установах выкарыстоўваюцца элементы ТРВЗ, элементы методыкі Мантэсоры, Глазырынай, Зайцава (дашкольныя ўстановы г.Докшыцы, Параф'янава, станцыі Крулеўшчына, Бягомльскі дзіцячы сад).

Элементы методыкі ТРВЗ, Зайцава, Занкова маюць працяг і ў пачатковай школе. Настаўнікі пачатковых класаў укараняюць у практыку сваёй работы элементы тэхналогіі "Крок за крокам", элементы тэхналогіі развіццёвага навучання, розныя гульневыя тэхналогіі (Барсукоўская, Параф'янаўская, Ваўкалацкая сярэднія і Прудніцкая базавая школы).

**Інфармацыйныя тэхналогіі шырока выкарыстоўваюцца сёння ў школах раёна пры выкладанні матэматыкі, хіміі, фізікі, біялогіі, рускай і беларускай моў.**

Не толькі ў раёне і вобласці, але нават і ў рэспубліцы вядомы вопыт і поспех работы настаўніцы беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №2 г.Докшыцы Марыі Нікадзімаўны Грайчонак. У практыку яе працы трывала ўвайшла тэхналогія нейралінгвістычнага праграмавання, асноўны прынцып якой – вучыць дзяцей, выкарыстоўваючы ўсе іх органы пачуццяў. Такі падыход да навучання мове мае на мэце навучыць пісаць правільна, лёгка і хутка, дапамагчы вучням "рухацца самастойна". Ён уяўляе сабой сістэму работы па інтэнсіўным павышэнні практычнай пісьменнасці, развіцці ўвагі, памяці, мыслення, фантазіі, творчых здольнасцей на аснове фарміравання звязнай вуснай і пісьмовай мовы.

Марыя Нікадзімаўна мае шмат цікавых напрацовак, розных матэрыялаў і заданняў па тэхналогіі нейралінгвістычнага праграмавання. Сваім вопытам работы яна часта дзеліцца з педагогамі раёна і вобласці.

Тэхналогія французскіх майстэрняў рэалізуецца настаўнікамі–моваведамі Р.Ю.Падляшчук, Т.В.Новікавай, Л.І.Дранковіч, Г.І.Пакальскай (Параф'янаўская сярэдняя школа, сярэднія школы №1 і № 2 г.Докшыцы, Глінская сярэдняя школа).

У раёне ёсць вопыт прымянення тэхналогіі модульнага навучання (Сітцаўская, Бярозаўская сярэднія школы), групавой і парна–групавой работы на ўроках (Бягомльская, Параф'янаўская, Крулеўшчынская, Барсукоўская сярэднія школы), тэхналогіі рознаўзроўневага навучання (Барсукоўская, Бягомльская сярэднія, Юркаўшчынская базавая школа).

Укараненне новых тэхналогій навучання – гэта не даніна модзе, а патрабаванне часу. Яно дае магчымасць паспяхова вырашаць задачу, вызначаную праграмай рэфармавання школы — рэалізацыю прынцыпу забеспячэння адукацыйных патрэб асобы з улікам яе індывідуальных асаблівасцей і магчымасцей. З дапамогай новых адукацыйных тэхналогій вучань і настаўнік становяцца раўназначнымі партнёрамі. Такім чынам вырашаюцца задачы павышэння якасці адукацыі, ствараюцца аптымальныя ўмовы для маральнага, інтэлектуальнага і творчага развіцця асобы дзіцяці.

**Фёдар ПАЛАЧАНІН, галоўны спецыяліст аддзела адукацыі Докшыцкага райвыканкама.**

